Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

# ГАНДЛЁВЫ БЮЛЕТЭНЬ

НАРКАМУНУТГАНДЛЯ БССР

РЭДАКЦЫЯ І КАНТОРА
г. Менск,
Дом Урада,
левае крыло, 4 паверх,
комн. № 405.
Тэл. № 23-287.

№ 32 | Год выдання 1-ы | 13 снежня 1935 г. | № 32

## Што такое асартыментны мінімум

Колькасць тавараў у нашай краіне расце з кожным днём. Побач з колькасным ростам значна паляпшаецца якасць тавараў.

Рост добрабыту працоўных выклікае ўсё больш і больш попыт на рознастайны асартымент тавараў.

Як вядома, пад асартыментам той ці іншай групы тавараў мы падразумяваем рознастайнасць гатункаў, смакавых якасцей, колераў, фасонаў, размераў і чым больш рознастайны гатункі, колеры і т. д., тым тавар з'яўляецца больш складаным па асартыменту.

Даволі паказаць, што такая група тавараў, як галантарэя, налічвае некалькі тысяч найменаванняў. У межах гэтай групы тавараў адны толькі кружава або гузікі маюць сотні найменаванняў.

Швейныя вырабы, тэкстыль, абутак, мебля, культтавары—усё гэта тавары несумненна складаныя па ліку найменаванняў.

Калі яшчэ застанавіцца на харчовых таварах, то і сярод іх мы маем тавары складаныя па асартыменту.

Возьмем, для прыклада, гастраномію. Гэта група тавараў у асноўным уключае тры віды прадтавараў: калбасныя вырабы і капчонасці, селядцы і рыбтавары, нарэшце, малочныя прадукты. Па адным калбасным вырабам і капчонасцям наша харчовая прамысловасць зараз выпускае звыш 100 гатункаў, відаў.

Адсюль—група тавараў „Гастраномія“ з'яўляецца таксама складанай па асартыменту. Зусім няверным з'яўляецца прадстаўленне аб тым, што складанымі таварамі па асартыментнаму прызнаку з'яўляюцца толькі промтавары.

У адпаведнасці з гэтым неабходна ў кожным спецыялізаваным магазіне ўстанавіць сталы цвёрды асартыментны мінімум па кожнай групе тавараў.

Асартыментны мінімум—гэта перш за ўсё пералік мінімальнай наяўнасці тавараў аднэй пэўнай групы, які ахоплівае найбольш шырокі або звужаны асартымент тавараў.

Але-ж асартыментны мінімум гэта не ёсць толькі пералік тавараў. Дырэктар магазіна і загадчык спецыялізаванай секцыі тавараў нясуць адказнасць за сталае наліча ўсіх тавараў, паказаных у асартыментным мінімуме.

Гэта азначае, што спажывец управе патрабаваць ад магазіна абавязковага налічча таго тавара, які прадугледжан гэтым мінімумам.

Увядзенню больш пашыранага або звужанага асартыментнага мінімума павінен прадшэстваваць рад наступных важнейшых умоў:

**а) Матэрыяльна-тэхнічная база магазіна.** Гэты фактар пры даным абсталяванні магазіна вызначае магчымасць забеспячэння ім належнага якаснага хавання тавараў, прадугледжаных асартыментным мінімумам.

**б) Размер плошчы, лік рабочых месц,**—паколькі ў межах аднаго рабочага месца немагчыма ўмясціць найбольш пашыраны асартымент.

**в) Структура таварнага асартымента магазіна** і т. д.

Увядзенне асартыментнага мінімума будзе садзейнічаць спецыялізацыі магазіна, магчымасці лепшага вывучэння і задавальнення попыта спажыўца, а таксама павышэнню кваліфікацыі работнікаў магазінаў.

Наркамунутгандаль БССР ужо распрацаваў асартыментны мінімум па раду тавараў (меблевыя тавары, швейныя вырабы, калбасныя вырабы і т. д.).

Асартыментны мінімум па паказаным таварам дыферэнцыраван, выходзячы з вышэйпаказаных меркаванняў (зварот, лік рабочых месц, спецыялізацыя магазіна і т. д.).

Распрацоўка гэтага мінімума яшчэ не азначае яго ажыццяўлення. Таму перад гандлюючымі арганізацыямі стаіць адказнейшая задача па ўстанаўленню штодзённага кантроля за сапраўдным ажыццяўленнем асартыментнага мінімума, якое павінна значна палепшыць абслугоўванне спажыўца.

Ажыццяўленне гэтага важнейшага мерапрыемства залежыць у першую чаргу ад работнікаў гандлёвага апарата.

А. РУБІН

# У НАРКАМУНУТГАНДЛІ БССР

Вытвaранай Наркамунутгандлем БССР праверкай устаноўлена, што Гомельскі маргарынавы завод выдаткоўваў марга-гусалін і маргарын без нарадаў.

На падставе гэтага Наркамунутгандаль БССР забараніў Гомельскаму маргарынаваму заводу безнарадны водпуск маргарына.

Наркамунутгандаль БССР распарадзіўся Белхарчгандлю аб вылучэнні 10 000 руб. для рамонта і абсталявання сталовай Слуцкага Гарпо.

Загадам па Наркамунутгандлю БССР з 15 снежня 1935 г. адчыняюцца паўтарамесячныя курсы па перакваліфікацыі каманднага складу пажарна-вартавой аховы гандлюючых арганізацый і прадпрыемстваў сістэмы Наркамунутгандля БССР. Начальнікам курсаў прызначан т. Чэпік.

За парушэнне пастановы СНК БССР аб парадку прыёма работнікаў на работу (прымаліся на работу без працоўных спісаў і без пропуска праз атэстацыйную камісію),—Наркамунутгандаль БССР абвясціў суровую вымову дырэктару Менскай Канторы Белгандля т. Броништэйну, старшыні Магілеўскага ЦРК т. Астрову і старшыні Аршанскага ЦРК т. Штаркеру, прапанаваўшы адначасова ўсім дырэктарам аб'яднанняў і раённых кантор строга прытрымлівацца ўстаноўленага ўрадавымі органамі парадка прыёма работнікаў на работу.

Наркамунутгандаль БССР прапанаваў усім дырэктарам прыгарадных гаспадарак зараз-жа заключыць дагаворы з бліжэйшымі МТМ на рамонт трактароў, а таксама скласці план рамонта галоўнейшых відаў с.-г. машын і інвентара для вясенняй пасеўнай кампаніі, забяспечыўшы высокую якасць рамонта і прыёмку яго ў адпаведнасці з дырэктывамі Наркамзема СССР.

---

# АФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## За ігнараванне інтарэсаў спажыўца—суровае пакаранне, а за палепшанне яго абслугоўвання—падзяка і грашовае прэміраванне

### ЗАГАД

### па Народнаму Камісарыяту Ўнутранага Гандля БССР

### № 423

28 лістапада 1935 г. г. Менск

Не гледзячы на цэлы рад катэгарычных прапаноў з боку Наркамунутгандля БССР гандлюючым арганізацыям аб абавязковым увядзенні рада важнейшых мерапрыемстваў па палепшанню гандля мясам,—да гэтага часу на працягу амаль двух месяцаў многія мерапрыемствы ў жыццё не праведзены.

Пры праверцы выкрыты наступныя недахопы:

а) правілы гандля мясам, якія пасланы арганізацыям яшчэ 1-га кастрычніка, да сёнешняга дня, за выключэннем магазіна Менхарчгандля № 34, не даведзены да магазінаў. Прадаўцы з правіламі гандля мясам не знаёмы;

б) тэхвучоба для прадаўцоў не арганізавана;

в) дробнага рознавеса гір па магазінам няма (за выключэннем магазіна Менхарчгандля № 34);

г) прапанаваныя разліковыя табліцы, якія значна аблягчаюць і паскараюць падлік кошта мяса, а таксама папярэджваючыя аблічэнне спажыўца, у большасці магазінаў адсутнічаюць;

д) адказныя рубшчыкі па магазінам, акрамя магазіна МХГ № 34, нідзе не вылучаны;

е) у магазіне Горспажыўсаюза № 61 (загадч. магазінам т. Рабіновіч, прадавец мяса т. Сіроткіна) брудна. Мяса ляжыць у беспарадачным відзе, прычым т. Сіроткіна не дамагаецца аўладаць тэхнікай гандля—правілы гандля мясам не чытала;

ж) магазін МХГ № 50 (заг. магазінам т. Янкелевіч) бараццьбы за якасць не вядзе. Атрыманае мяса сярэдняй упітанасці, не гледзячы на ўсе прызнакі як ніжэй-сярэдняе, прадавалася за сярэдняе;

з) прадавец магазіна МХГ № 50 т. Капылоў з пакупнікамі грубіць, прапануючы браць мяса вагой у 700 грам, у якім косці важаць 250 грам;

і) у магазіне Горспажыўсаюза № 4 прадавец Фішман мед. агляд не праходзіць, чым і парушае правілы гандля мясам. Апошняя адзнака аб праходжанні медагляда значыцца 30 верасня 1935 г.;

к) папярэднія заказы па магазінах не праводзяцца, тады як праведзеная магазінам МХГ № 34 (заг. магазіна т. Шакура) работа па прыёму папярэдніх заказаў дала значныя рэзультаты ў сэнсе палепшання абслугоўвання пакупніка;

л) магазіны Менхарчгандля №№ 50 і 82 продаж бітай птушкі часткамі не вытвараюць.

Усе паказаныя недахопы з'яўляюцца рэзультатам недаацэнкі гандлюючымі арганізацыямі, а таксама загадчыкамі магазінаў пытанняў палепшання гандля мясам—значыць—лепшага абслугоўвання пакупнікоў.

ЗАГАДВАЮ:

1. Спецыяльна выдзеленым па Менхарчгандлю т. Сосланд і па Горспажыўсаюзу т. Шуб—адказным выканаўцам па гандлю мясам, за няўменне арганізаваць продаж мяса ў адпаведнасці з палажэннем па гандлю мясам, зацверджаным Саюзнаркамунутгандлем—т. Вейцэрам—абвясціць суровую вымову.

2. Прадаўца магазіна Менхарчгандля № 50 т. Капылова за праяўленую недапушчальную грубасць да пакупнікоў, як-та: „Если пойдете жаловаться, то я вам все-таки дам кости“—з работы зняць.

3. Заг. мясным аддзелам магазіна Горспажыўсаюза № 61 т. Сіроткінай, дважды папярэджанай за антысанітарыю—абвясціць вымову і папярэдзіць яе, што калі ёю не будуць прыняты меры да ліквідацыі адзначаных недахопаў, дык пры паўторнай праверцы яна будзе знята з работы.

4. Заг. магазінам Горспажыўсаюза № 4 т. Файвішову за адсутнічанне кантроля праходжання прадаўцамі магазіна мед. агляда—абвясціць вымову, а прадаўца гэтага магазіна т. Фішмана за непраходжанне мед. агляда ва ўстаноўленыя тэрміны з работы зняць.

5. Папярэдзіць усіх загадчыкаў магазінамі, старшых прадаўцоў і работнікаў прылаўка мясных магазінаў, што ў выпадку выкрыцця гэтых недахопаў пры паўторнай праверцы, да іх будуць ужыты больш суровыя меры спагнання.

6. У сувязі з тым, што пры праверцы магазіна ОРС'а ДН-3 № 34 (заг. магазінам т. Свідарэнка) выяўлена адсутнічанне дробнага рознавеса гір, што прыводзіць да абважвання спажыўца і за праяўленую грубасць заг. магазінам—адказ на запытанне чаму няма рознавеса—„Найдите сами"—перадаць гэтае пытанне Нач. ОРС'а для налажэння адміністрацыйнага спагнання.

7. У сувязі з тым, што Мясакамбінат парушае стандартны разруб тушы па хрэбту, што штампоўка мяса, якая вызначае ўпітанасць, устанаўліваецца няправільна—мяса ніжэй сярэдняй упітанасці штампуецца як сярэдняе, а частка мяса, паступаючая ў магазін, зусім не мае штампа, улічваючы таксама, што Белптушкапромтрэст няправільна вызначае сортнасць бітай птушкі,—паставіць гэтае пытанне перад Упаўнаркамхарчпромам і прасіць т. Крылова прыняць адпаведныя меры да поўнага знішчэння вышэйадзначаных недахопаў, так як апошнія неізбежна прыводзяць да ашуканства спажыўца.

8. Адзначыць слабы ўдзел дырэктароў Гандляў—Менгорспажыўсаюза (т. Крэйнін), Менхарчгандля (т. Хейфец) у наладжванні гандля мясам.

Прапанаваць дырэктарам Гандляў забяспечыць належную пастаноўку работы мясных магазінаў, як у галіне санітарыі, так і ў арганізацыі самога гандля і павышэння культурна-тэхнічных ведаў гандлюючага апарата.

9. За праяўленую ініцыятыву заг. магазінам Менхарчгандля № 34 т. Шакура і яго калектыва работнікаў па ажыццяўленню рада мерапрыемстваў (увядзенне сістэмы папярэдніх заказаў, фасоўка мяса) і такой арганізацыі гандля, якая прывяла да значнага палепшання абслугоўвання спажыўца,—заг. магазінам т. Шакура і ўсяму калектыву магазіна абвясціць падзяку. Прэміраваць грашовай прэміяй т. Шакура ў размеры 200 руб. і для прэміравання выдатных з лепшых работніка ў прылаўка гэтага магазіна—выдаць у распараджэнне заг. магазінам 300 руб.

Дзяржаўнай Гандлёвай Інспекцыі з 1-га снежня 1935 г. правесці масавую праверку мясной сеткі і рэзультаты праверкі далажыць мне.

Народны Камісар Унутранага
Гандля Беларускай ССР **Н. ГУРЭВІЧ**

---

# Гастраном павінен стаць узорам у справе захавання норм і правіл культурнага совецкага гандля

## Пастанова Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР

20 лістапада 1935 г. **№ 863** г. Менск

Вытваранай Дзяржаўнай Гандлёвай Інспекцыяй праверкай сеці „Белгастранома" выяўлен шэраг парушэнняў норм і правіл культурнага совецкага гандля.

Нормы і правілы гандля павінны выконвацца няўхільна ўсёй гандлёвай сеткай, тым больш у першую чаргу спецыялізаванай сеткай, якой з'яўляецца „Гастраном".

Між тым, як устаноўлена праверкай, узорным у гэтай галіне „Гастраном" не з'яўляецца, а наадварот, мае тыя-ж недахопы і грубыя парушэнні, якія маюцца і ў неспецыялізаванай сетцы.

Такое становішча яўна недапушчальна і патрабуе неадкладнага ўстаранення ўсіх дэфектаў, выяўленых пры абследванні „Гастранома". Такія факты, як скарыстанне манет для ўзвешвання ў якасці дробных гір, у радзе нават сельскіх і раённых магазінаў ужо зжыты. Наадварот, у магазінах „Гастранома", як-та ў магазіне № 2 ў Менску (дырэктар т. Карпілоўскі, работніца прылаўка Кашавец) гэтую практыку яшчэ прымяняюць, што з'яўляецца безумоўна агідным фактам.

Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР
ПАСТАНАЎЛЯЕ:

1. Прыняць да ведама заяву Ўпаўнаважанага Дзяржаўнай Гандлёвай Інспекцыі т. Левіна, што ім прыняты меры і налажана спагнанне на непасрэдных віноўнікаў, дапусціўшых у сваёй рабоце парушэнне правіл і норм гандля.

2. Прапанаваць дырэктару „Белгастранома" т. Гурэвічу і дырэктарам магазінаў „Белгастранома" у дэкадны тэрмін ажыццявіць усе неабходныя мерапрыемствы па зжыццю ўсіх адзначаных недахопаў і парушэнняў.

3. Даручыць т. Гурэвічу („Белгастраном") сумесна з інспектарам Дзяржаўнай Гандлёвай Інспекцыі арганізаваць сходы работнікаў прылаўка, загадчыкаў аддзяленняў і загадчыкаў магазінаў „Гастраном" у г. Менску—для абмеркавання вынікаў праверкі Дзяржаўнай Гандлёвай Інспекцыі і намеціць канкрэтныя мерапрыемствы па поўнаму іх устараненню.

4. Адобрыць прапанову Ўпаўнаважанага Дзяржаўнай Гандлёвай Інспекцыі аб правядзенні ў снежні месяцы г.г. паўторнай праверкі магазінаў „Гастраном".

5. Папярэдзіць дырэктара „Белгастранома" т. Гурэвіча, загадчыкаў магазінаў і работнікаў прылаўка, што калі паўторная праверка пацвердзіць адзначаныя недахопы і не будуць прыняты адпаведныя меры к поўнаму ўпарадкаванню і прывядзенню ў узорны парадак сеці „Белгастранома"—вінаватыя будуць сурова пакараны.

Нарком Унутранага Гандля БССР **Н. ГУРЭВІЧ**

# Пераключэнне розных тавараў у фонд атаварвання хлебазакупак можа быць дапушчана толькі з дазволу НКУГ БССР

## Загад па Народнаму Камісарыяту Ўнутранага Гандля Беларускай ССР

20 лістапада 1935 г. **№ 419** г. Менск.

Праверкай Бабруйскай міжрайбазы Белкаапсаюза, праведзенай Бабруйскім Горунутгандлем т. Багдановічам і старшым інспектарам Наркамунутгандля т. Авруцiным устаноўлена, што некаторыя работнікі спажывецкай кааперацыі няправільна і самавольна практыкуюць пераключэнне ў фонд атаварвання хлебазакупак такіх тавараў, як пілы і напільнікі, якія адсутнічаюць у наменклатуры тавараў, вызначаных урадам для атаварвання закупак хлеба.

Такія тавары, паколькі яны не з'яўляюцца аднаіменнымі з наменклатурай вызначаных урадам тавараў, зразумела, не маюць і ўстаноўленага эквівалента, вызначаючага колькасць адпускаемага тавару закожны рубель купленага хлеба, што прыводзіць да самавольнага ўстанаўлення на месцах эквівалентаў па свайму погляду і з'яўляецца незаконным.

ЗАГАДВАЮ:

1. Забараніць пераключэнне на месцах без дазвола Наркамунутгандля БССР у фонд хлебазакупак такіх тавараў, якія не лічацца ў наменклатуры тавараў, вызначаных урадам для атаварвання хлебазакупак, а таксама забараніць устанаўленне на месцах самавольных эквівалентаў, якія не зацверджаны НКУГ СССР і БССР.

2. Растлумачыць, што ў выпадку, калі на міжрайбазы Белкаапсаюза ці на склады Райсаюзаў будуць паступаць дэфіцытныя тавары добрай якасці і безумоўнай ходкасці, адносна якіх на месцы будзе прызнана міжрайбазай ці Райсаюзам сумесна з Горрайунутгандлем мэтазгодным пераключыць на атаварванне хлебазакупак, не гледзячы на адсутнасць такіх тавараў у наменклатуры хлебфонда, дык Горрайунутгандаль сумесна з дырэктарам базы ці старшынёй Райсаюза павінен узбуджаць хадайніцтва перад Наркамунутгандлем БССР (з дакладным паказаннем гатунка, якасці і колькасці тавараў)— аб дазволу пераключэння і ўстанаўлення адпаведнага эквівалента. Толькі пасля атрымання дазвола Наркамунутгандля з устаноўленым эквівалентам—тавар можа быць на месцы пераключан у фонд атаварвання хлебазакупак.

Нарком Унутранага Гандля БССР **Н. Гурэвіч**

# Поўнасцю выканаць пастанову ЦК ВКП(б) і СНК СССР аб нормах водпуска тавараў у адны рукі

## Пастанова Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР

26 лістапада 1935 г. **№ 877** г. Менск

З матэрыялаў Дзяржаўнай Гандлёвай Інспекцыі пры Наркамунутгандлі СССР па БССР па абследванню гандлёвай сеткі г. Менска і раёнаў відаць, што работнікі сеці парушаюць устаноўленыя пастановай СНК СССР і ЦК ВКП(б) ад 25/IX—35 г. нормы водпуска некаторых тавараў у адны рукі.

Работнікі сеці тлумачаць гэта тым, што яны гэтых норм не ведаюць і што кіраўніцтвам гандлюючых арганізацый гэтыя нормы да іх не даведзены.

ПАСТАНАЎЛЯЮ:

1. Абавязаць усіх кіраўнікоў гандлюючых арганізацый: а) давесці да кожнага работніка сеткі ўстаноўленыя ўрадам нормы водпуска некаторых тавараў у адны рукі; б) вывесіць ва ўсіх магазінах, ларках і т. д., гандлюючых харчовымі таварамі, гэтыя нормы.

2. Папярэдзіць усіх работнікаў сеці аб іх суровай адказнасці за парушэнне ўстаноўленых норм.

3. Абавязаць усе гандлюючыя арганізацыі азнаёміць работнікаў сеці з гэтай пастановай.

4. Даручыць Упаўнаважанаму Дзяржаўнай Гандлёвай Інспекцыі пры НКУГ СССР па БССР, усім Горунутгандлям, а таксама старшым інспектарам Унутгандля сістэматычна правяраць выкананне водпуска ўстаноўленых норм у адны рукі.

5. Пастанову даслаць усім Горунутгандлям, старшым інспектарам Унутгандля і гандлюючым арганізацыям.

Народны Камісар Унутранага Гандля БССР **Н. ГУРЭВІЧ**

# Аб аплаце аўтагужавых выдаткаў па перавозкам хлебапрадуктаў

## РАСТЛУМАЧЭННЕ НАРКАМФІНА СССР

ад 9 кастрычніка 1935 г. за № 1010

У сувязі з паступаючымі ад фінорганаў запытаннямі аб тым, ці трэба размяшчаць гандлюючым і хлебавыпякаючым арганізацыям аўтагужавыя выдаткі пры перавозках хлебапрадуктаў уласным аўтатранспартам, НКФ СССР растлумачвае:

Аўтагужвыдаткі па перавозкам хлебапрадуктаў павінны вазмяшчацца за лік бюджэта і ў тым выпадку, калі гандлюючыя і хлебавыпякаючыя арганізацыі перавозяць хлебапрадукты ўласным транспартам. Пры гэтым вазмяшчэнню за лік бюджэта падлягае фактычны кошт перавозкі тоны хлебапрадуктаў, але ў размерах не звыш адпаведнай нормы па шкале, зацверджанай пастановай СПА ад 27/XII—34 г. № 1351.

Для атрымання ад бюджэта паказанага вазмяшчэння арганізацыі павінны прадставіць фіноргану:

а) подлінныя рахункі (або квітанцыі) пастаўшчыка, якія пацвярджаюць, што перавазімая партыя хлеба аплочана; б) даведку аб фактычным кошту перавозкі тоны хлебапрадуктаў за подпісамі старшыні сельпо і бухгальтара або загадчыка магазінам (хлебапякарняй) і бухгальтара.

# Бракераж хлебазаводаў адказвае за водпуск гандлёвай сетцы нестандартнага хлеба

## Пастанова Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР

21 лістапада 1935 г. **№ 865** г. Менск

За апошні час заўважаны шматлікія выпадкі пападання ў хлеба-гандлёвую сетку пячонага хлеба і хлеба-булачных вырабаў нестандартнай якасці (гарэлы, сыры, з павышанай кіслотнасцю). Гэта сведчыць аб тым, што недапусціма аслаблен кантроль за якасцю выпускаемага хлеба з боку бракеража выпякаючых прадпрыемстваў, а таксама за якасцю прымаемага і завазімага ў магазіны хлеба—з боку экспедытараў гандлюючых арганізацый і загадчыкаў магазінаў.

Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР ПАСТАНАЎЛЯЕ:

1. Прапанаваць кіраўнікам хлебагандлюючых арганізацый:

а) абавязаць сваіх экспедытараў жорстка правяраць якасць прымаемага ад хлебазаводаў хлеба і хлеба-булачных вырабаў і ні ў якім разе недапушчаць прасоўвання ў гандлёвую сетку нестандартнага хлеба;

б) устанавіць адказнасць экспедытараў за пападанне ў гандлёвую сетку нестандартнага хлеба;

в) правесці інструктаж работнікаў хлебных магазінаў па пытанню стандартнай якасці хлеба і абавязаць іх адмаўляцца ад прыёмкі хлеба нестандартнай якасці і аб кожным такім выпадку паведамляць кіраўніцтву гандлёвай арганізацыі для прыняцця мер супроць экспедытара, прапусціўшага нестандартны хлеб у развозку;

г) ва ўсіх выпадках выяўлення нестандартнасці адпускаемага хлебазаводам хлеба абавязкова прымяняць санкцыі, прадугледжаныя дагаворам з хлеба-выпякаючай арганізацыяй.

2. Прасіць Упаўнаважанага Наркамхарчпрома па БССР праверыць работу бракеража хлебазаводаў Белпромхлеба, павысіць іх адказнасць за пропуск недобраякаснага нестандартнага хлеба і жорстка прыцягваць да адказнасці бракероў, прапускаючых у экспедыцыю нестандартны хлеб.

Народны Камісар Унутранага
Гандля БССР **Н. ГУРЭВІЧ**

---

# ЦЭНЫ

## на сухары кафейныя, гарадскія, слівачныя і ванільныя з мукі 75%-га памола

## ПАСТАНОВА

## Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля СССР

15 лістапада 1935 г. **№ 1230** г. Масква

Народны Камісарыят Унутранага Гандля Саюза ССР ПАСТАНАЎЛЯЕ:

1. Дазволіць гандлюючым арганізацыям паўсямесны продаж сухароў кафейных, гарадскіх, слівачных і ванільных з пшанічнай мукі 75%-га памола.

2. Устанавіць на паказаныя сухары наступныя адзіныя паясныя рознічныя цэны ў рублях і капейках за *кг.*:

| | Паясы | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | I | II | III | IV | V | VI | VII | VIII |
| Сухары гарадскія, кафейныя і слівачныя . | 5—70 | 6—00 | 6—30 | 6—60 | 6—90 | 7—20 | 7—60 | 8—00 |
| Сухары ванільныя . . . . | 6—90 | 7—20 | 7—50 | 7—70 | 7—90 | 8—10 | 8—50 | 8—90 |

3. Устанавіць скідку ў карысць гандлюючых арганізацый пры продажы сухароў гарадскіх, кафейных, слівачных і ванільных з мукі 75%-га памола ў размеры 40 кап. з кілограма сухароў.

4. Зацвердзіць рэцэптуру і камерцыйны сабекошт паказаных сухароў, згодна дадатку к гэтай пастанове з тым, што розніца паміж рознічнай цаной, за вылікам гандлёвай скідкі, і камерцыйным сабекоштам, уключаючы накапленні, падлягае ўнясенню ў дзяржбюджэт.

5. Устанавіць, што ў выпадку атрымання хлеба-выпякаючымі арганізацыямі падсобнай сыравіны на выпечку паказаных сухароў па цэнам вышэй або ніжэй прынятых у разліках камерцыйнага сабекошта,—розніца ў цэнах на гэтую сыравіну або ўплачваецца бюджэту, або залічваецца ў чарговыя ўзносы ў бюджэт.

6. Гэтую пастанову ўвесці ў дзеянне з 15-га лістапада 1935 г.

Нам. Народнага Камісара Ўнутранага
Гандля Саюза ССР **З. БАЛОЦІН**

## РОЗНІЧНЫЯ ПРОДАЖНЫЯ ЦЭНЫ НА МАНДАРЫНЫ ЎРАДЖАЯ 1935 г.

Пастановай Совета Народных Камісараў БССР № 2461 і Наркамунутгандля Саюза ССР № 1201 ад 10/XI—35 г. устаноўлены наступныя розвічныя продажныя цэны на мандарыны ўраджая 1935 г.:

| Налічча ў адным яшчыку ў штуках | Колькасць мандарын у 1 *кл* | Рознічныя цэны за штуку | |
|---|---|---|---|
| 36—80 . . . . | ад 7 да 12 | 1 | — |
| 100—120 . . . . | ад 14 да 26 | — | 60 |
| 216 . . . . . | 27—39 | — | 30 |
| 310 . . . . . | 40 | — | 15 |

Мандарыны ўраджая 1935 г. прадаюцца выключна па-штучна. Пераводзіць у рознічнай продажы з штук у кілограмы—забараняецца.

Гэтыя цэны ўвесці ў дзеянне з дня атрымання на мясцах.

Нач. Аддзела арганізацыі гандлёвай сеці і рэгулявання цэн НКУГ БССР
**С. КАМЯНЕЦКІ**

## Аб змене ўстаноўленых аптова-адпускных цэн на кандзіцерскія вырабы выпрацоўкі арцеляў Белхарчпрамсаюза

### ПАСТАНОВА
### Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР

25 лістапада 1935 г. **№ 870** г. Менск

У змену пастановы Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР ад 17 мая 1935 г. за № 230,—устанавіць наступныя аптова-адпускныя цэны на кандзіцерскія вырабы выпрацоўкі арцеляў Белхарчпрамсаюза ў руб. і кап. за *кл* франка-вытворчасць:

Пячэнне „Звёздачка“ з 75% мукі . 5 р. 25 к. за *кл*
замест раней устаноўленай . . . . 6 р. 82 к. „ „
Пячэнне „Смесь“ з 75% мукі . . 5 р. 11 к. „ „
замест раней устаноўленай . . . . 6 р. 29 к. „ „
Пранікі „Народныя“ з 75% мукі . 4 р. 17 к. „ „
замест раней устаноўленай . . . . 5 р. 15 к. „ „

Паказаныя цэны ўвесці з 1-га снежня.

Народны Камісар Унутранага Гандля БССР **Н. ГУРЭВІЧ**

## Аб адпускных цэнах на пранікі 75% мукі, выпрацоўваемыя арцеллю Белкаапінсаюза

### ПАСТАНОВА
### Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР

9 лістапада 1935 г. **№ 825** г. Менск

Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР ПАСТАНАЎЛЯЕ:

1. Устанавіць аптова-адпускную цану на пранікі з мукі 75%-га памола, выпрацоўваемыя арцеллю „Большэвік“ у горадзе Бабруйску сістэмы Белкаапінсаюза—3 р. 87 к. за *кл* франка-арцель-вытворчасць.

Нарком Унутранага Гандля БССР **Н. ГУРЭВІЧ**

## Рознічныя цэны на рыбу мясцовага ўлова „Зеркальны карп“

### ПАСТАНОВА
### Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР

19 лістапада 1935 г. **№ 858** г. Менск

У змену загада Наркамунутгандля БССР № 327 ад 17/IX—35 г. устанавіць на зімні час дадатковыя выдаткі па хаванню рыбы „Зеркальны карп“—45 к. на 1 *кл* і ўстанавіць наступныя рознічныя продажныя цэны:

Карп зеркальны, жывы, 1 гатунка . . 4 р. 50 к. *кл*
„ парны 1 гатунка . . . . . . 3 р. 50 к. „
„ „ II гатунка . . . . . . . 2 р. 90 к. „

Паказаныя цэны ўвесці з 20/XI—35 г.

Нарком Унутранага Гандля БССР
**Н. ГУРЭВІЧ**

## Аб зніжэнні цэн на завозныя грушы, прадаваемыя менскім Плодатрэстам

### ПАСТАНОВА
### Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР

19 лістапада 1935 г. **№ 859** г. Менск

На падставе пастановы Саюзнаркамунутгандля ад 23/VIII—35 г. за № 802 і акта Дзяржаўнай Пладагароднай Інспекцыі Упаўкамзага,—Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР ПАСТАНАЎЛЯЕ:

1. Знізіць рознічныя продажныя цэны на грушы „Сенжэрмен“ і „Вільямс“ у колькасці 200 скрынак—4 тоны II гатунка—да 4 руб., замест 6 р. 40 к. і III гатунка да 3 руб., замест 5 р. 20 к. за *кл*. Грушы „Фердынанд“ у колькасці 150 скрынак—3 тоны знізіць да 6 руб., замест 8 руб. (II гатунка) *кл* і III гатунка да 5 руб., замест 6 р. 50 к.

2. Прапанаваць Менплодатрэсту (т. Сільвестраву) забяспечыць хуткую рэалізацыю, не дапускаючы псавання гэтых фруктаў.

Нарком Унутранага Гандля БССР **Н. ГУРЭВІЧ**

## Аб рознічнай цане на туалетнае мыла „Залатая марка“ трэста „Ленжет“

### ПАСТАНОВА
### Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля СССР

25 лістапада 1935 г. **№ 1279** г. Масква

У дадатак да пастановы Наркамунутгандля Саюза ССР ад 4/III—1935 г. № 134—зацвердзіць рознічную цану на туалетнае мыла вышэйшага гатунка трэста „Ленжет“—„Залатая марка“ б/абвёрткі—2 р. 35 к. за кавалак у 100 грам.

2. Гэтую пастанову ўвесці ў дзеянне з дню атрымання яе на мясцах.

Нам. Народнага Камісара Унутранага Гандля Саюза ССР
**ХЛАПЛЯНКІН**

## Рознічныя цэны на мясныя кансервы

**ПАВЕДАМЛЕННЕ**

**Аддзела арганізацыі гандлёвай сеці і рэгулявання цэн НКУГ БССР**

Пастановай Наркамунутгандля Саюза ССР № 1263 устаноўлены наступныя дзяржаўныя рознічныя цэны на мясныя кансервы (у руб. і капейках за 1 натуральную банку першага гатунка—дадатковыя расфасоўкі):

| Назва кансерваў | Расфасоўка ў грамах нето | Цана | |
|---|---|---|---|
| Паштэт пячоначны са смальцам або салам | 500 грам | 6 | 60 |
| Паштэт пячоначны з маслам | 500 „ | 7 | 85 |
| Сасіскі з капустай | 350 „ | 3 | 00 |
| Курынае рагу | 160 „ | 1 | 80 |
| Бэф-булі | 338 „ | 4 | 60 |
| Жаркое | 338 „ | 4 | 85 |

Нач. Аддзела арганізацыі гандлёвай сеці і рэгулявання цэн НКУГ БССР

**С. КАМЯНЕЦКІ**

## Аб камерцыйнай сабекаштоўнасці харчовай бульбы цэнтралізаванага фонда

**ПАСТАНОВА**

**Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР**

29 лістапада 1935 г. **№ 884** г. Менск

У адпаведнасці з п. 2 пастановы Саюзнаркамунутгандля, Саюзнаркамфіна і Камітэта па загатоўках сельскагаспадарчых прадуктаў пры СНК СССР № 1241/1197/4495 ад 17 лістапада 1935 г.,—Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР ПАСТАНАЎЛЯЕ:

1. Устанавіць з 1-га кастрычніка 1935 г. наступную гранічную сабекаштоўнасць харчовай бульбы цэнтралізаванага фонда:

Віцебск, Гомель . . . . . 14 кап. за *кл.*
Астатнія гарады і раёны . 11,2 „ „ „

Народны Камісар Унутранага Гандля БССР

**Н. ГУРЭВІЧ**

Узгоднена з Наркамфінам БССР і Ўпаўкамзагам СНК СССР па БССР.

## Адпускныя цэны на ягаднае цеста

**ПАСТАНОВА**

**Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР**

26 лістапада 1935 г. **№ 876** г. Менск

У адпаведнасці з пунктам 2-м пастановы Совета Народных Камісараў БССР № 25 ад 5/XI,—Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР пастанаўляе:

Устаноўленыя СНК БССР адпускныя цэны на ягаднае цеста — поўфабрыкат—вытворчасці трэста Белсадвінпром:

Цеста яблачнае . . . . 1130 р. за тону
„ брусьнічнае . . . 1477 р. „ „
„ журавіннае . . . 1477 р. „ „

распаўсюдзіць на прадукцыю Белплодагародніны.

Народны Камісар Унутранага Гандля БССР

**Н. ГУРЭВІЧ**

## ЦЭНЫ НА СЕНА ДЭЦ. ЗАГАТОВАК

**ПАСТАНОВА**

**Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля Саюза ССР**

9 лістапада 1935 г. **№ 1191** г. Масква

Устанавіць, што продаж сена дэцэнтралізаваных загатовак вытвараецца па цэнам, устаноўленым на сена дзяржаўных загатовак у даным поясе.

Нам. Наркамунутгандля Саюза ССР **З. БАЛОЦІН**

# СПРОС И ПРЕДЛОЖЕНИЕ ТОВАРОВ

**Бюро спроса и предложения товаров при Наркомвнуторге БССР**

г. Минск, Советская ул., Дом Правительства, левое крыло, 4-й этаж, комн. 415, тел. 22-540. Адрес для телеграмм — МИНСК, БЕЛТОВАРБЮРО, тек. сч. в Белорусской Конторе Госбанка № 160/10076.

# ПРЕДЛОЖЕНИЕ ТОВАРОВ

## Продтоварная группа

**Джэм яблочный**—сахаристостью 60—65%, 50 тонн, цена франко-производства 4 000 р. тонна. Расчет акцептом. Тара по ценам прейскуранта СТО за счет покупателя. Срок отгрузки—декабрь с. г. и январь 1936 г.

**Мед паточный искусственный**—20 тонн, сахаристостью не ниже 50%. Цена франко-склад производства 2 000 р. тонна. Цена утверждена Белпищепромсоюзом и Наркомвнуторгом. Тара — бочки деревянные по ценам СТО. Отгрузка в декабре с. г. и январе 1936 г. Расчет акцептом.

**Мед искусственный паточный** — сахаристостью 40%—50 тонн, цена франко-склад продавца—2 400 р. тонна — нетто, утвержденная Белпищепромсоюзом. Тара—бочки продавца за счет покупателя по ценам СТО. Срок отгрузки—декабрь 1935 г.—январь 1936 г. Расчет акцептом.

**Повидло яблочное**—сахаристостью 50—55%—100 тонн, цена франко-производство —3 600 р. тонна. Цена утверждена НКВТ СССР. Тара—бочки осиновые за счет покупателя по ценам СТО.

**Черника сухая**—стандартного качества—60 тонн, цена франко-станция отправления—6 500 р. тонна. Тара—мешки за счет покупателя с обязательным возвратом.

## Промтоварная группа

**Цепи Галля**—10 000 метров по 22 р. за пог. метр.

**Винтовки „ТОЗ"**—№ 8 мелко-калиберные—1 275 штук по 92 руб., плюс 5 проц.

**Оси железные**—с чугунными втулками № 2—500 штук по 22 р. штука.

**Замки висячие** амбарные крашеные—2 000 штук по 6 р. 30 к. штука.

**Замки амбарные** чугунно-литые—крашеные,—душко из круглого железа 5/8 дюймов., 2-мя плоскими ключами—2 000 штук по 6 р. 25 к. штука; на чугунно-литые замки—госбюджетная наценка.

**Тиски** параллельные неповоротные—80 *мм*—100 шт. по 32 руб. Тара—средствами продавца за счет покупателя. Указанные цены франко-склад продавца плюс наценка в пользу продавца—5 проц. Срок отгрузки—декабрь с. г. Расчет акцептом.

**Втулки райбированные** № 2—25 000 штук по цене 1 р. 80 к. штука, плюс 2 проц. наценки.

**Втулки райбированные** № 3—25 000 штук по цене 2 р. 48 к. штука, плюс 2 проц. наценки (наценка в пользу продавца). Срок отгрузки—декабрь с. г. Расчет акцептом.

**Седелки крестьянские стоячие**—2 000 штук, качеством хорошие. Цена франко-склад продавца по 6 р. 95 к. штука. Тара продавца за счет покупателя. Срок отгрузки—декабрь с. г. Расчет акцептом.

**Вожжи тесемочные**—1 000 штук, длины 8—9 метр., концы подшиты кожей в 1—1 3/4 метра с пружинами. Цена франко-склад продавца—7 р. 70 к. штука. Тара продавца за счет покупателя. Срок отгрузки—декабрь. Расчет акцептом.

**Топоры плотничьи**—белорусского образца—15 000 штук по цене 7 р. 30 к. за штуку—франко-склад производство. Отгрузка—декабрь. Тара и отправка за счет покупателя. Расчет акцептом.

**Скоб дверной**—лак., 1 200 п. по 70 к. плюс 10 проц. наценки, цена франко-склад продавца, утвержденная Конвенцбюро НКВТ. Срок отгрузки—декабрь. Расчет акцептом.

**Чуни веревочные**—сорт согласно образца—20 000 пар. Тара—в тюках. Цена франко-склад производство—3 р. 50 к. за пару по ценам Конвенцбюро Наркомвнуторга. Срок отгрузки немедленный. Расчет акцептом.

**Веревка** из луба и льняных и пеньковых отходов—хорошего качества—10 тонн по 3 720 р. тонна.

**Чуни** пенько-льняные хорошего—качества—140 000 пар на 1936 г. Цена франко-склад продавца по 3 р. 50 к. за пару. Цена утверждена НКВТ. Тара продавца за счет покупателя. Срок отгрузки—согласно договора в конце месяца равными частями ежемесячно. Расчет акцептом.

**Веревки** из льняных отходов—сорт и качество согласно образца. Количество—5 тонн. Цена франко-производство—2 640 р. за тонну—утверждена Белутильпромсоюзом. Тара—связки за счет покупателя. Срок отгрузки—декабрь с. г. Расчет акцептом.

**Веревка** из пеньковых отходов—5 тонн по цене 4 300 р. за тонну. Цена франко-склад производство—утверждена Конвенцбюро. Срок отгрузки—декабрь с. г. Расчет акцептом.

**Спатри** узорная, белая, свежая, не залеженая, гладкая, без желтков—50 000 листов по цене 1 р. 53 к. за лист. Расчет акцептом. Срок отгрузки—в декабре с. г.—50 проц. и в первом квартале 1936 г.

**Чуни веревочные**—20 000 пар. Цена франко-склад производство—3 р. 50 к. за пару. Срок отгрузки немедленный. Расчет акцептом.

**Чуни веревочные из льняных отходов**—хорошего качества—10 000 пар—цена франко-склад продавца—3 р. 50 к. за пару. Срок отгрузки, начиная с 1/XI—по 31/XII—35 г. равными частями. Расчет акцептом.

**Чуни веревочные из льняных отходов**—25 000 пар, по 3 р. 50 к. пара, плюс 5 проц. наценки франко-склад продавца.

**Веревка из льняной кудели или же пеньковой**—20 000 штук по 3 р., плюс 5 проц. наценки. Всего на сумму 60 000 р. цена франко-склад продавца.

**Веревка мочальная**—12 000 штук па 70 коп., плюс 10 проц. наценки, цена—франко-склад продавца. Срок отгрузки—IV квартал с. г. Расчет акцептом.

**Чуни веревочные**—из отходов льна и луба—20 000 пар с отгрузкой в ноябре м-це. Цена франко-склад 3 р. за пару. Расчет акцептом.

**Чуни пенько-льняные**—140 000 пар. Цена франко-склад продавца по 3 р. 50 к. за пару. Срок отгруки согласно договора ежемесячно равными частями. Расчет акцептом.

## Лесо-химическая группа

**Уголь сосновый**—с отгрузкой в декабре 1935 г.—10 вагонов и в 1936 г.—1 000 тонн. Цена франко-производство—184 р. тонна.

**Уголь березовый дубовый**—смесь с отгрузкой в декабре—15 вагонов. Цена франко-производства—184 р. тонна.

**Уголь сосновый**—250 тонн, станция отправления—220 р., плюс 2 проц. за тонну. Отгрузка—ноябрь—декабрь. В декабре можно грузить в корзинах по 255 руб. тонна франко-вагон. Расчет брутто за нетто. Расчет акцептом, авансом 15 проц. суммы.

**Гуталин**—12 000 дюжин черного и желтого в стеклянной посуде по цене 3 р. 30 к. дюжин, плюс 50 проц. государственной наценки. Цена франко-склад продавца. Тара—ящики по 4 р. 50 к. за каждый. Упаковка—1 руб. за ящик и доставка по себестоимости за счет покупателя. Расчет акцептом.

**Галипот**—30 тонн—годен для выработки коломази. Цена франко-производство 925 р. тонна, плюс доставка 120 р. с тонны. Отгрузка в декабре с. г. Тара за счет покупателя по ценам СТО. Расчет аккредитивом.

**Сикатив** скипидарный — высыхаемый не более 1—2 час. Цена 2 500 р. тонна. Каличество—10 тонн.

**Уголь березовый**—дубовый, смесь с отгрузкой в декабре с. г. 15 вагонов франко-производство,—184 руб. тонна.

**Сургуч** в палочках красный, доброкачественный, цена франко-склад продавца—2 250 р. тонна. Количество—17 000 *кл.* Срок отгрузки немедленный.

Выданне Наркамунутгандля БССР—Дом Урада, 4-й паверх, пак. 405, тэл. 23-287.

Адк. рэдактар І. І. Верба. Адк. сакратар рэдакцыі В. Адлерштэйн.

Школа ФЗВ друкарні ім. Сталіна. Зак. 1425. Тыраж 750 экз. Галоўлітбел № 2962.